# Свабоду палітвязням!

## Бюлетэнь прысвечаны беларускім палітвязням (Palitviazni.info)

### Валянцін Стэфановіч: У справе Алеся Бяляцкага шмат судовых памылак

**Два гады таму быў абвешчаны прысуд кіраўніку праваабарончага цэнтра “Вясна” Алесю Бяляцкаму. Суд Першамайскага раёну Менска прызнаў яго вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры і прыгаварыў да чатырох з паловай гадоў зняволення. Праваабаронцы лічаць прысуд палітычна матываваным, а справу сфабрыкаванай.**

За асабістыя сродкі **Алеся Бяляцкага** следства выдала грошы, якія накіроўваліся на праваабарончую дзейнасць і дапамагу рэпрэсаваным. Намеснік кіраўніка “Вясны” **Валянцін Стэфановіч** нагадаў, што нават ў прысудзе адзначана – Бяляцкі выконваў абавязацельствы, узятыя на сябе згодна з раней дасягнутымі дамоўленасцямі.

*- Суд, выкарыстаўшы гэтую фармулёўку, так і не даў адказу, якіх дамоўленасцяў і якіх абавязацельстваў. А гэта вельмі істотна. Таму што і Бяляцкі, і ягоная абарона сцвярджалі, што паводле тых дамоўленасцяў, якія былі ўзятыя праваабарончым цэнтрам “Вясна” і замежнымі фондамі, якія фінансавалі праваабонча дзейнасць праваабарончага цэнтра “Вясна”, ён абавязаны быў гэтыя грашовыя сродкі перадаць трэцім асобам, то бок па прызначэнні выканная гэтых абавязацельстваў.*

Падчас разгляду справы былі агалошаны пісьмовыя доказы, якія прадставілі фонды-донары, а таксама былі дапытаныя сведкі, гэтак званыя “трэція асобы”, якія гэтую дапамогу атрымлівалі.

Аднак ні суд, ні следства не выканалі ўказання пракуратуры Менска і не звярнуліся з запытам да фондаў, якія перадавалі сродкі Бяляцкаму, каб высветліць прыроду іх паходжання і мэты, на якія яны пералічваліся.

А гэта вельмі істотна для справы, – падкрэсліў Валянцін Стэфановіч, – таму што паводле падатковага кодэксу, грашовыя сродкі, якія перадаюцца па дамоўленасці трэцім асобам, не падлягаюць падаткаабкладанню.

***racyja.com***

### Мікалая Аўтуховіча пазбавілі спатканьня з маці

**Мікалая Аўтуховіча пазбавілі спатканьня з маці, але прынялі ў яе харчовую перадачу для сына.**

У лістападзе ў **Мікалая Аўтуховіча** плянавалася спатканьне з сваякамі, але калі маці палітвязьня Лідзія Юльянаўна прыехала ў гарадзенскую турму, каб спаткацца з сынам, то даведалася, што спатканьне забаранілі. Чаму, спытаў карэспандэнт Свабоды ў **Лідзіі Аўтуховіч**.

*«Адкуль жа я ведаю? Ня кажуць. Гэта іх права такое: хочуць — дазваляюць спатканьне, ня хочуць — не дазваляюць. Што хочуць, тое й робяць. Не далі — і ўсё. Добра, хоць перадачу прынялі. 30 кіляграмаў. Прадукты ды рэчы. Усё цяжкае, што ні купі, усё нешта важыць. Шмат ня возьмеш. А бачыла я сына ажно мінулым годам і ўжо, відаць, ў гэтым годзе ня ўбачу, да вызваленьня ня ўбачу, пэўна. Толькі засталося, што ліставацца. Чакаю яго, канечне. Яго шмат хто чакае, а маці — тым больш».*

Асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы Мікалай Аўтуховіч адбывае пакараньне ў гарадзенскай турме, адкуль мае вызваліцца ў красавіку наступнага году. Сваякі і праваабаронцы непакояцца пра тое, як ён перажыве зіму. Мінулай зімой, паводле Мікалая Аўтуховіча, яму даводзілася спаць у шапцы і нават днём было гэтак холадна, што цяжка было пісаць лісты. Пра гэта апавяла **Вольга Мікалайчык**, грамадзкая актывістка, рэжысэрка, зь якой Мікалай Аўтуховіч ліставецца.

Прадпрымальніка з Ваўкавыску Мікалая Аўтуховіча асудзілі за захоўваньне некалькіх патронаў. Праваабаронцы і апазыцыя лічаць Аўтуховіча палітвязьнем, якога пакаралі за барацьбу з карупцыяй ва ўладзе.

***svaboda.org***

### Навошта Лукашэнку патрэбны прашэнні аб памілаванні ад палітвязняў?



У Беларусі 10 палітвязняў. Звычайна замежнікі сцвярджаюць, што гэта не шмат. Сапраўды калі параўноўваць з Паўночнай Карэяй альбо Іранам, гэта так. Але Беларусь – гэта еўрапейская краіна, з еўрапейскай гісторыяй і еўрапейская ментальнасцю. Таму практыкі якія з’яўляюцца нечым звыклым у Азіі ці Афрыцы тут выклікаюць абурэнне і навдзвычайную ўвагу з боку заходніх суседзяў. Еўразвяз цвёрда патрабуе вызвалення беларускіх палітзняволенных і менавіта гэта з’яўляецца сёння ўмовай паляпшэння адносінаў Захаду з Беларуссю. На практыцы гэта значыць, што толькі вызваленне палітвязняў дасць Беларусі магчымасці скарыстацца заходнімі крэдытамі ды зрабіць яе больш прывабнай для заходніх інвестыцый, якія так патрэбны беларускай гаспадарцы.

Сярод тых, хто сёння знаходзіцца за кратамі розныя людзі. Найбольш вядомыя тры асобы: Мікола Статкевіч, палітычны канкурэнт Лукашэнкі з часоў апошняй прэзідэнцкай кампаніі, Алесь Бяляцкі, вядомы беларускі праваабаронца і прадпрымальнік Мікола Аўтуховіч… Астатнія гэта маладзевыя актывісты.

Калі ўзяць пад увагу сёняшнюю кандыцыю ўлады, яе цэнралізацыю і маналітнасць, а таксама дзеяздольнасць беларускіх сілавых структураў і параўнаць усё гэта з станам падзелянай і ўнутрана неаднароднаю беларускай апазіцыі то становіцца зразумела, што ніхто з тых хто сёння знаходзіцца за кратамі ў дадзены момант не ўяўляе для Лукашэнкі нейкай надзвычайнай палтычнай пагрозы.

Кожнага можна выпусціць на волю і ён не здолее ўскалыхнуць Беларусь ці нежк дэстабілізаваць існуючы рэжым. Сёння менавіта гаспадарка і нарастаючы крызіс, а не беларуская апазіцыя з’яўляюцца галаўным болям Аляксандра Лукашэнкі. Здавалася б плюсы, якія можа атрымаць у пры вызваленні палітвязняў (пазыкі і інвестыцыі) значна пераболшваюць мінусы.

Але Лукашэнка упарта адмаўляецца вызваліць палітвязняў.

Чаму?

Перш за ўсё Александр Лукашэнка хоча выглядаць моцным як у вачах грамадства так і ў вачах наменклатуры. Ад гэтага залежыць ягоная будучыня як кіраўніка Беларусі. Яму вельмі важна каб кожны беларус добра ведаў, што улада Лукашэнкі непахісная і менавіта ён а не Брусэль ці Масква з’яўляецца паўнапраўным і адзінаасобным уладаром Беларусі.

Ён адкрыта ўзалежнівае магчымасць вызвалення палітзняволенных ад напісання імі просьбы аб памілаванні адрасатам якой ён бачыць менавіта сябе. Гэта так важна для Лукашэнкі менавіта як сымбаль ягонай маральнай перамогі над палітычнымі вязнямі.

Беларуская сістэма трымаецца між іншым на страху. Грамадства добра ведае, што любы канфлікт з уладай можа пацягнуць за сабой рэпрэсіі. Палітзняволеныя такім, чынам з’яўляюцца напамінаннем для кожнага беларуса, што з уладай лепш не задзірацца.

Аляксандр Лукашэнка інтуітыўна адчувае, што вызваленне незломных палітвязняў з’яўляецца дэманстрацыяй іхнай маральнай перамогі над уладай. Гэта дае натхненне і ўзмацняе веру грамадства ў магчымасць пераменаў. І калі не цяпер, то прынамсі ў будучыні можа стацца прычынай ягонай паразы. У адрозненні ад заходніх палітыкаў, якія свае поляны абмяжоўваюць тэрмінам да бліжэйшых выбараў Лукашэнка думае іншымі катэгорыямі. У бліжэйшай будучыні ён не збіраецца дзяліцца ўладай таму маральная перамога над палітвязнямі, якая мае сымбалізаваць безсэнсоўнасць усялякага супрацьстаяння дзеючый уладзе, з’яўляецца для яго вельмі важнай.

І таму на сёняшні момант менавіта патрабаванне звароту да прэзідэнта з просьбай аб памілаванні з’яўляецца ўмовай звальнення палітвязняў.

Канешне, для улады ёсць розныя шляхі выйсця з гэтай сітуацыі з тварам, ці нават атрымаць нейкія піар-дэвідэнты. Але пакуль, што сітуацыя ў Беларусі не на столькі крытычная каб Лукашэнка шукаў нейкага іншага выхаду, які прадугледжваў бы адмову ад маральнай перамогі над сваімі палітычнымі апанентамі.

***Анджэй Пачобут для palitviazni.info***

Solidarity Fund PL

palitviazni.info

FRID Fundacja Rozwoju Inicjatyw Demokratycznych

## Таццяна Равяка: Мы не жадаем дэвальвацыі статусу палітвязьня




**Сваё слова вакол сытуацыі з арыштам каталіцкага ксяндза Уладзіслава Лазара выказалі і беларускія журналісты і палітычныя аглядальнікі. Сутнасць рэакцыі з гэтым арыштам – абурэньне дзеяньнямі ўладаў, але таксама і бязьдзеяньнем касьцёлу, і праваабаронцаў, якія ўхіляюцца ад таго, каб назваць сьвятара палітычным вязьнем. І пакуль касьцёл не жадае агучыць, або зрабіць нейкіх крокаў каб вырашыць праблему, праваабаронца цэнтру "Вясна" Таццяна Равяка распавяла palitviazni.info, чаму праваабаронцы не сьпяшаюцца даць сваю ацэнку ў гэтай справе.**

**Таццяна Равяка**: *Праваабаронцы заўсёды прымаюць нейкія рашэньні і робяць заявы датычна нейкай справы толькі ў выпадку, калі пра яе падрабязнасьці і акалічнасьці становіцца вядома. Часам гэта вельмі проста і ад моманту ўзяцьця пад варту чалавека, яшчэ на этапе сьледства абсалютна відавочная палітычная матывацыя абвінавачваньня і тое, як будзе разьвівацца сьледства і якім чынам будзе праходзіць суд. Так, напрыклад, калі адбываліся арышты пасьля 2010 году, або пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2006 году, або ў 2008 годзе, калі былі страйкі прадпрымальнікаў, то па шматлікіх справах адразу ж можна было сказаць, што яны палітычнаматываваныя. Таму літаральна з моманту затрыманьня мы казалі, што гэтыя асобы палітвязьні. Але ёсьць справы, якія больш складаныя. Да такіх і належыць справа ксяндза Лазара. Калі не відавочна, што ж ёсьць ў справе, якія матывацыі. І гэта не першая такая справа. Я нагадаю, што калі распачыналася справа Мікалая Аўтуховіча, таксама на парваабаронцаў аказваўся ціск, што не з моманту затрыманьня лічым яго палітвязьнем. І сапраўды, гэта было так. Там працаваў адвакат, які мог ацэньваць матэрыялы справы. І паводле яго меркаваньня на этапе сьледства было заўчасна прымаць нейкае рашэньне. І вось калі адбыўся адкрыты суд, і калі тыя паказаньні, якія даваліся падчас этапа расьледаваньня аказаліся безпадстаўнымі: людзі проста ад іх адмовіліся, што яны давалі іх пад ціскам, тады мы пабачылі, што рэальна справа разваьваецца. Тады можна было агучыць, што перасьлед палітычнаматываваны, што суд і прысуд палітычнаматываваныя і спадар Аўтуховіч палітвязень. Былі таксама і такія справы, па выніках якіх не было прызнаньня палітвязьнем. Гэта справа спадара Малчанава – дарэчы, нядаўняя справа. Яго абвінавачвалі ў крадзяжы металалому і падчас суду было відавочна, што спадар Малчанаў ведаў, што тэрыторыя зачыненая, гэта абароненая зона, што ім былі прадпрынятыя, прычым сьвядома, захады, якія супярэчаць закону. Але і прысуд быў, з улікам яго трэцяй судзімасьці, прапарцыйны, то бок, ён не быў завышаны ў сувязі зь яго палітычнай дзейнасьцю, ці яго ранейшым статусам палітвязьня. Тады мы сказалі: не. У справе ж ксяндза Лазара таксама цяпер недахоп інфармацыі. Гэта спараджае такія часам эмацыйныя дзеяньні, або заявы, ў тым і абвінавачваньні.*

**- Але ці няма пытаньняў ў праваабаронцаў да такіх момантаў, як затрыманьне ксяндза, ўтрыманьне за кратамі, хада сьледства? Няўжо няма парушэньняў, і няўжо гэта не фіксуецца?**

**Таццяна Равяка**: *Я думаю, што там насамрэч досыць шмат парушэньняў. Яшчэ нават ў жніўні, калі была агучаная інфармацыя аб арышце нейкага там сьвятара, мы зрабілі запыт, з патрабаваньнем агучыць, хто затрыманы, на падставе чаго, і дзе ўтрымліваецца. Гэтыя зьвесткі не зьўляюцца таямніцаю сьледства і іх агучылі. Але на жаль, болей інфармацыі мы не маем. Чаму гэтай інафрмацыі няма і яна не паступае – цяжка сказаць, магчыма, што яе проста няма.*

***(Цалкам інтэрв'ю на сайце palitviazni.info).***

## Vinsent: Моладзь не бачыць перспектываў у Беларусі




**Моладзь найбольш прагрэсіўная частка ў любым грамадстве. Не выключэньне і беларуская. Праўда, у стасунках да гэтай прагрэсіўнай часткі грамадства і найбольш метадаў ціску збоку рэжыму Лукашэнкі. Як і што выкарыстоўваецца і як магчыма гэтаму супрацьстаяць – на пытаньні palitviazni.info адказвае малады беларускі артыст, музыка Vinsent.**

**Vinsent**: *Сапраўды, улады маюць і выкарыстоўваюць досыць шмат інструментаў, сярод якіх і войска, і міліцыя, і мэдыцына. І гэта далёка не поўны сьпіс, на жаль.*

**- А ці лёгка моладзь ў параўнаньні з іншымі часткамі грамадства, зламаць? І якім чынам можна супрацьстаяць ціску?**

**Vinsent**: *Нельга ж забываць пра тое, што моладзь розная. Увогуле ўсе людзі зусім розныя. Так, мне даводзілася сустракацца з вялікай колькасьцю сапраўды дастойных людзей, якіх, як мне падаецца, надзвычай складана зламаць. Увогуле, калі нехта не жадае нейкай там супрацы, то на гэта не пагодзіцца. Адначасова з гэтым мне даводзілася чуць, дый і бачыць на ўласныя вочы ў тым жа ваенкамаце, такіх маладзёнаў, якія не ведаюць нават, колькі абласьцей ў нашай краіне. Ім задавалі такія пытаньні: што большае, Сонца, ці Зямля? Колькі ж абласных цэнтраў ў Беларусі, прасілі іх пералічыць абласныя гарады. І людзі не ведалі адказы на гэтыя пытаньні. Мала таго, калі яны чулі беларускую мову, дык нават не маглі зразумець, што гэта за мова. Таму калі чалавек мае добрыя веды, разьвіты інтэлектуальна, то яго зламаць фактычна немагчыма. Але агулам вайскоўцы не павінны адрозьнівацца інтэлектам, што зусім не азначае, што ў асяроддзі і салдацкім, і афіцэрскім мала адукаваных і эрудзіраваных асобаў.*

**- Ці не ў выніку гэтага ціску, як падлічыў НІСЭП, больш за 60% маладых людзей жадаюць зьехаць з нашае краіны?**

**Vinsent**: *Я лічу, што галоўная прычына такой зьявы – адсутнасьць перспектывы для маладых людзей. Ці дакладней сказаць, яны не бачаць перад сабою перспектываў. Сярод маіх знаёмых сапраўды, вельмі шмат людзей, якія ставяць перад сабою мэту зьехаць, перадусім на Захад. Едуць і на Усход. Я не магу сябе назваць нейкім адмысловым, але мне падаецца, што проста людзі не бачаць перад сабою матывацыі. Няма сыстэмы, пры якой ты разумееш, што пры адпаведнай працы ты атрымаеш нейкі посьпех, ці нейкую ўзнагароду, ці нейкую кампенсацыю. Тобок, маладыя людзі не бачаць магчымасьці для добрай працы і адначасова рэалізацыі сябе.*

**- А ці можа быць стымулам для беларускай моладзі ўсьведамленьне таго, што праца ў краіне, прывядзе да зьменаў? Ці гатовыя маладыя людзі сёньня працаваць насуперак ціску але для будучыні? Ці прасьцей зьехаць?**

**Vinsent**: *Мне падаецца, што агулам праблема міграцыі – гэта не выключна беларуская праблема. Дзе б я не быў, якія б краіны не наведваў – паўсюль даводзілася чуць і бачыць, што моладзь імкнецца недзе выехаць. Той жа Еўразьвяз – там ёсьць краіны, якія літаральна нядаўна далучыліся да ЕЗ. І там бачым, што моладзь імкнецца выехаць перадусім на Брытыйскія выспы, альбо ў ЗША. Таму гэта не толькі нашая праблема. Але што тычыцца менавіта тых людзей, якія жадаюць і сябе рэалізаваць, і развіваць сваю краіну, то такіх сьвядомых вельмі мала. І такое мы можам пабачыць практычна ў любой краіне сьвету. Я б адзначыў, што такая катэгорыя людзей прыкладна ў прапорцыі 20 на 80. тыя 20 адсоткаў гатовыя ахвяраваць многае і дзейнічаць ў імя будучыні, а 80 – на жаль не.*

***palitviazni.info***

## Яўген Васьковіч: У камэры 10 чалавек, апранутыя ў майкі

**Яўген Васьковіч патэлефанаваў дамоў пасьля працяглага перапынку. Маці палітвязьня Рушанія Васьковіч распавяла карэспандэнту Свабоды.**

*«Званіў днямі, такі бадзёры і вясёлы. Але ж я ня ведаю, які ён насамрэч, яго ж не бачна. Можа, робіць выгляд, што ўсё добра. Але паводле голасу, ўлічваючы тое, дзе ён знаходзіцца, быццам ўсё нармальна.»*

Пра ўмовы ў камэры Яўген распавёў маці, што ў турме ўключылі ацяпленьне, ў іх не холадна, вязьні ў камэры ходзяць у майках. Усяго ў камэры сядзіць 10 чалавек. На адну гадзіну штодня вязьняў выводзяць на прагулку ў турэмны дворык.

*«Слава богу, хоць на гадзіну выводзяць. Гэта хоць нешта, хоць нешта»*, — кажа **Рушанія Васьковіч**, маці **Яўгена Васьковіча**.

Грамадзкі актывіст Яўген Васьковіч у 2011 годзе асуджаны на 7 гадоў зьняволеньня за напад на будынак Бабруйскага КДБ. Сваёй віны актывіст не прызнаў. Трымаюць актывіста з магілёўскай турме, дзе разам зь ім сядзяць палітвязьні **Мікалай** Статкевіч і **Мікалай Дзядок**.

***svaboda.org***

## Марына Лобава: Толькі ад Францкевіча даведалася, што Эдуард сядзеў у карцэры

**Эдуард Лобаў цягам году адбываў пакараньне ў карцэры, пра якое не паведамляў сваякам.**

Амаль месяц няма лістоў і званкоў ад вязьня івацэвіцкай калёніі Эдуарда Лобава. Маці палітвязьня **Марына Лобава** не выключае, што ён можа апынуцца зноў у карцэры. Такое ўжо было цягам году, прычым сам **Эдуард Лобаў** пра гэта сваякам не паведамляў.

*«Даведалася ад Аляксандра Францкевіча, калі той выйшаў»*, — згадвае Марына Лобава актывіста **Аляксандра Францкевіча**, які сядзеў разам з Эдуардам Лобавым ў івацэвіцкай калёніі.

*«Хто ж ведае, чаму няма зьвестак. Мы ж большага ня ведаем. Вунь, як сказаў Францкевіч, калі выйшаў, што той быў у ШЫЗА. А мне Эдуард пра гэта нічога не казаў. Магчыма, не хоча мяне хваляваць. Пасьля ўжо спытала, чаму не паведаміў, дык ён кажа, што гэта не вельмі істотна, таму і не сказаў».*

Калі дакладна яе сын сядзеў у карцэры, Марыне Лобавай невядома.

Актывіст «Маладога фронту» Эдуард Лобаў быў асуджаны да 4 гадоў зьняволеньня разам са Зьмітром Дашкевічам за нібыта зьбіцьцё мінакоў. Інцыдэнт адбыўся за дзень да прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году. Актывісты ў судзе казалі пра правакацыю спэцслужбаў. **Зьміцер Дашкевіч** быў асуджаны на 2 гады, потым яму працягнулі тэрмін яшчэ амаль на год. Нядаўна Зьміцер Дашкевіч вызваліўся. Палітвязень Эдуард Лобаў працягвае знаходзіцца ў івацэвіцкай калёніі. Вядома, што ён адмовіўся падпісваць прашэньне аб памілаваньні.

***svaboda.org***